# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

*№ 27 (27). Слонім. 5 снежня — 11 снежня 1997г.* *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* *Кошт свабодны*


## Наш прыз - у Аляксея Баля



Мікрахвалевую печку фірмы «Самсунг» атрымаў ад рэдакцыі «Газеты Слонімскай» капітан футбольнай каманды «Камунальнік» Аляксей Баль. Ён быў прызнаны пераможцам конкурса на лепшага футбаліста сезона. Гэты конкурс праводзіла наша газета. Уручэнне прыза адбылося ў мінулую пятніцу, 28 лістапада, у РДК, дзе праходзіла ўшанаванне каманды з прычыны завяршэння VII Нацыянальнага чэмпіяната Беларусі.

**На здымку: супрацоўнікі «Газеты Слонімскай» уручаюць прыз Аляксею Балю.**

Фота Сяргея КРАЎЦОВА

## Дажыліся

**У школах горада катастрафічна не хапае падручнікаў, асабліва па замежных мовах і па гісторыі.**

Як сказала метадыст гарадскога аддзела адукацыі Тарэза Юшкевіч, праблема з забяспячэннем вучняў падручнікамі ўзнікла, па-першае, з-за пераходу малодшых класаў з беларускай мовы на рускую. У выніку атрымалася, што цяпер беларускія падручнікі ляжаць без справы, а рускамоўных не хапае. Па-другое, павялічылася колькасць вучняў 10-11 класаў, а падручнікі па замежнай мове, гісторыі і выхаванню яшчэ не надрукаваны.

Тым не менш, Тарэза Вацлаваўна запэўніла, што калі ўзнікае магчымасць набыць новыя падручнікі, іх купляюць. Напрыклад, нядаўна ў школы паступілі кніжкі па фізіцы і рускай літаратуры, па замежных мовах для сёмых класаў і другая частка гісторыі для дзесятых.

Па словах работнікаў аддзела адукацыі, незразумелая сітуацыя з падручнікамі можа атрымацца ў новым навучальным годзе, калі вучні першых класаў будуць вучыцца па трох напрамках — шасцігодкі, сямігодкі і астатнія.

Алена СІНЯК

## «Фартуне» не пашанцавала

**У суд для разгляду накіравана крымінальная справа ў адносінах да дырэктара і бухгалтара прыватнага прадпрыемства «Фартуна».**

В. Якімовіч і В. Дзянішчык абвінавачваюцца ў службовым падлогу і схаванні прыбыткаў ад падаткаабкладання. Падчас следства высветлілася, што яны два гады назад па фіктыўных дакументах у «Беларусбанку» атрымалі крэдыт амаль на адзін мільярд рублёў. Аднак своечасова ўсю суму грошай не вярнулі. Спецыялісты падлічылі, што «Фартуна» завінавація банку ўжо болей двух мільярдаў рублёў.

## Марыхуана расла каля гаражоў

**За апошні месяц работнікамі міліцыі ўзбуджана і накіравана ў суд пяць крымінальных спраў за захоўванне і ўжыванне наркотыкаў.**

Насцярожвае тое, што ў Слоніме акрамя звычайнага для нашай мясцовасці наркотыка — маканай саломкі, «засвяціліся» і марыхуана. Гэта зелле было выяўлена ў 27-гадовай жыхаркі горада Наталлі Я. На сваёй кватэры яна захоўвала 525 грамаў гатовай для ўжывання марыхуаны. Міліцыі Наталля патлумачыла, што гэты наркотык яна нібы сабрала для лячэбных мэтаў каля гаражоў, якія знаходзяцца побач з інтэрнатам медвучылішча.

Валодзя ЯНЧУК

## І зноў адзначыліся

Нядаўна ў Гродне адбылося пасяджэнне калегіі абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў, дзе абмяркоўвалася пытанне «аб стане прафілактычнай работы з ранейй судзімымі».

Як адзначыў начальнік абласной міліцыі палкоўнік Белашэўскі, за 10 месяцаў колькасць злачынстваў на Гродзеншчыне значна павялічылася. Асабліва «вызначыўся» Слонімскі ГРАУС, дзе рост злачыннасці склаў аж 36%. Пры гэтым таксама было падкрэслена, што колькасць злачынстваў з удзелам крымінальнікаў-рэцыдывістаў на Слонімшчыне ўзрасла ў шэсць разоў. Тым часам, як у іншых раёнах вобласці гэты паказчык ніжэй у 2-3 разы.

Наталля ФУРСАВА

## Паведамляе пракуратура

Слонімскай міжрайпракуратурай праводзіцца праверка законнасці разгляду заяў і паведамленняў, якія паступілі ў Слонімскі ГРАУС.

Грамадзяне, якія звярталіся ў Слонімскі ГРАУС з заявамі і паведамленнямі пра злачынствы, але ім было адмоўлена ў прыёме заяў, просім звярнуцца па гэтых фактах у Слонімскую міжрайпракуратуру па тэлефонах: 2-11-08, 2-31-38.

### Чытайце ў нумары:



## Як слонімцы плітку рабілі

**Падобна на тое, што ў чарговы раз аферысты абвялі слонімцаў вакол пальца. Дакладней будзе сказаць — вакол абліцовачнай пліткі.**

А справа была так. На пачатку жніўня два мінскіх прадпрымальніка прыехалі ў горад і праз аб'явы прапанавалі ўсім жадаючым добрааплочваемую працу (ад 2 мільёнаў рублёў у месяц). Некаторыя слонімцы, сярод якіх большасць былі беспрацоўныя, падаліся ў Дом афіцэраў. Менавіта там здымалі пакой пад офіс мінскія прадпрымальнікі, нехта Аляксандр Харужы і Дзяніс Рыгоравіч.

Жадаючым папрацаваць яны прапанавалі вырабляць для іх абліцовачную плітку з гіпсу, паабяцаўшы вялікія заробкі. Для большага даверу, прадэманстравалі як робіцца плітка і нават паказалі вучэбны відэафільм.

**(Працяг матэрыялу на 2 стр.)**

## Ёсць праблема з яйцамі

**У Слоніме зноў паўстала пытанне - дзе купіць яйца, хаця Слонімская птушкафабрыка штодзень павінна рэалізоўваць іх каля 120 тысяч штук.**

Як сказаў дырэктар фабрыкі Валерый Бурлакоў, 80 тысяч штук яек адпраўляецца ў Мінск, а астатнія 40 тысяч штук прыпадаюць на Слонімскі, Зэльвенскі і Дзятлаўскі раёны. У зімовы перыяд куры нясуцца менш. А даведзены план па рэалізацыі яек у сталіцу не мяняецца. Таму жыхарам Слоніма аддаюць тое, што застаецца. Тым не менш, начальнік упраўлення гандлю гарвыканкама Уладзімір Сарока запэўніў, што гэта пытанне вырашаецца і на навагоднія і калядныя святы перабояў з яйцамі не будзе.

Міхась АКУЛКА

**Да нашых чытачоў за мяжой. Шаноўныя сябры!**

**Вы жадаеце быць у курсе ўсіх падзей на Слонімшчыне? Чытайце «Газету Слонімскую»! Каб рэгулярна атрымліваць нашу газету, звяртайцеся ў рэдакцыю па адрасе: 231800 Беларусь, Гродзенская вобласць, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.**

## Шаноўныя сябры !

**У наступным годзе «Газета Слонімская» штотыдзень будзе выходзіць на ВАСЬМІ старонках. Падпісацца на нашу газету на першае паўгоддзе 1998 года Вы можаце ва ўсіх паштовых аддзяленнях горада і раёна. Нагадваем, што толькі ў нас самая нізкая цана падпіскі:**

**на месяц — 10.000 руб., на квартал — 30.000 руб., на паўгода — 60.000 руб.**



**ПЕРШАЕ КАХАННЕ — ПЕРШАЯ ГАЗЕТА**

# Як слонімцы плітку рабілі

Ахвотнікі знайшліся. Кожны з іх падпісаў дамову і прайшоў курс навучання, якое доўжылася не больш гадзіны і каштавала 530 тысяч рублёў. Потым людзі купілялі пластмасавыя формачкі для вырабу пліткі па 235 тысяч за штуку, замаўлялі гіпс. Дарэчы, гіпс «настаўнікі» прывозілі сваім «вучням» дахаты (40-кілаграмовы мех каштаваў 120-170 тысяч). Пры гэтым, незалежна ад колькасці замоўленых мяхоў гіпсу, кошт дастаўкі быў аднолькавы — 120 тысяч рублёў. Зроблена гэта было для таго, каб слонімцы бралі за раз як мага больш гіпсу — дзесяткі мяхоў... Гатовую плітку, пры ўмове, што яна будзе якаснай, прадпрымальнікі абяцалі скупаць па 70-80 тысяч рублёў за адзін квадратны метр, на які ішло прыкладна 12 кілаграмаў гіпсу. Так што заробкі абяцалі быць неблагімі.

З цягам часу колькасць кліентаў мінскіх бізнесменаў стала паступова павялічвацца, адначасова ўзраслі і цэны за навучанне і на матэрыялы для вырабу пліткі. Грошы ў рукі мінчанаў паліліся бясконцым патокам.

Тым часам, ва ўсіх кутках Слоніма кіпела работа. Людзі, авалодаўшы нескладанай тэхналогіяй вырабу пліткі, пачалі штампаваць яе сотнямі. Публіка спадзявалася на хуткі прыбытак, але ...

Дзесьці на пачатку кастрычніка людзі пачалі звяртацца да прадпрымальнікаў, каб яны забралі гатовы тавар. Аднак Харужы і Дзяніс Рыгоравіч не выказвалі да гэтага вялікага энтузіязму, спасылаючыся на розныя прычыны. Адзін слонімец, які зрабіў больш за 800 плітак, катэгарычна заявіў, што сам да іх прывязе прадукцыю. Таму бізнесмены прыехалі да яго на кватэру. Паглядзеўшы тавар, яны адмовіліся яго браць, але, каб супакоіць майстра-саматужца, далі яму трохі грошай. Больш ён іх не бачыў.

Расплаціўшыся за арэнду памяшкання і забраўшы сваю маёмасць, прадпрымальнікі зніклі ў невядомым напрамку. Чуткі пра гэта хутка абыйшлі горад. Для некаторых грамадзян гэта стала сапраўдным шокам. Многія слонімцы, спадзяючыся разбагацець, пазычылі грошы ў знаёмых і сваякоў, а ў выніку засталіся толькі з пліткай...

Як стала нам вядома, у пастку мінскіх «прадпрымальнікаў» трапілі сотні нашых землякоў. І толькі некаторыя з іх звярнуліся па дапамогу ў міліцыю. Іншым сорамна прызнацца, што іх так лёгка абвялі вакол пальца.

Сяргей ЁРШ

# «Хартыя-97» у Слоніме

У апошнія дні многія слонімцы ў сваіх паштовых скрынях знайшлі ўлёткі са зваротам «Хартыі-97». Нагадаем, што стварэнне «Хартыі-97», як шырокага руху беларускіх грамадзянаў у абарону сваіх правоў і свабодаў, было абвешчана 10 лістапада на прэс-канферэнцыі ў Мінску. Падобны рух, «Хартыя-77», у свой час быў створаны па ініцыятыве чэскіх і славацкіх праваабаронцаў у Чэхаславакіі. Неўзабаве ён стаў шырокім грамадскім рухам супраціўлення таталітарнаму рэжыму.

З ініцыятываі стварэння «Хартыі-97» выступілі найперш журналісты недзяржаўных беларускіх СМІ, якіх падтрымалі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, прафсаюзаў, вядомыя палітыкі. На гэты крок іх падштурхнулі дзеянні беларускіх уладаў, якія рыхтуюцца ўвесці шэраг недэмакратычных законаў, у тым ліку і супраць незалежнай прэсы.

Асноўнай мэтай «Хартыі-97» з'яўляецца аднаўленне ў краіне законнасці на аснове Канстытуцыі 1994 года. Галоўным сродкам дасягнення гэтай мэты з'яўляецца стварэнне эфектыўнай сістэмы калектыўнай абароны правоў і свабодаў кожнага грамадзяніна Беларусі.

Заснавальнікі «Хартыі-97» не плануюць стварэння ўласных кіруючых органаў. Яны спадзяюцца, што гэтая грамадзянская ініцыятыва знойдзе падтрымку многіх людзей Беларусі. Пад гэтым дакументам ужо паставілі свае подпісы такія вядомыя людзі, як Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Генадзь Карпенка, Станіслаў Шушкевіч, Павел Шарамет, Ігар Гермянчук, Юры Хадыка і іншыя. А ўвогуле пад «Хартыяй-97» ужо падпісалася каля 20 тысяч чалавек.

Кожны грамадзянін Беларусі можа далучыцца да ініцыятывы «Хартыі-97», паставіўшы пад ёй свой подпіс, і адправіць па адрасе любой незалежнай беларускай газеты.

Сяргей ЁРШ

## Здарэнні

### Печка перагрэлася

27 лістапада ў вёсцы Навасёлкі Паўлаўскага сельсавета здарыўся пажар.

У выніку ад агню цалкам згарэлі хата і ўся маёмасць вяскоўца Сяргея Л. Высветлілася, што прычынай пажару стала печка, якую палілі без дагляду.

### Загінула ва ўласнай хаце

30 лістапада ў вёсцы Русакова здарылася трагедыя.

Падчас пажару ад дыму задыхнулася 75-гадовая жанчына. Высветлілася, што прычынай загарання была звыклая электрагрэлка.

### Масток аказаўся вузкім

На мінулым тыдні ў Ісе, каля вёскі Рудня, утапіўся мужчына.

На добрым падпітку ён вяртаўся дахаты. Пераходзячы рэчку, паслізнуўся на мастку і ўпаў у ваду. Труп чалавека быў знойдзены ў панядзелак, 1 снежня.

Алег ТАЧОНЫ

## Навіны

### В СЛОНИМ – ЗА ОПЫТОМ

**На днях на фабрике «Гостиничной мебели» прошла выездная коллегия Министерства жилищно-коммунального хозяйства Республики Беларусь, где на опыте работы предприятия, рассматривались пути повышения эффективности производства, снижения себестоимости продукции за счет экономии топливных, материальных, трудовых и финансовых ресурсов.**

Директор фабрики Петр Котов подчеркнул, что заметных успехов они добились за счет улучшения качества и дизайна выпускаемой продукции.

Начальник управления Министерства ЖКХ Николай Крачковский в свою очередь всесторонне охарактеризовал опыт работы слонимских мебельщиков, отметил положительные формы и методы работы коллектива, которые будут рекомендованы для внедрения на всех предприятиях отрасли республики.

Результаты коллегии подвел министр жилищно-коммунального хозяйства Борис Батура. Он же вручил коллективу фабрики переходящий вымпел за 2-ое место в соревнованиях среди аналогичных предприятий отрасли.

На заседании Коллегии Министерства присутствовал и выступил председатель городского исполкома Олег Лактюшин.

Валентин ЧУРИЛО

### АСАРТЫМЕНТ ПАШЫРАЕЦЦА

**Нядаўна галоўны мастак фабрыкі мастацкіх вырабаў Аляксандр Сухалет вярнуўся з Мінска з прыемнай навіной: канцэрн «Беларускія мастацкія промыслы» зацвердзіў узоры новых відаў вырабаў, якія зараз асвойваюцца на прадпрыемстве.**

Сярод навінак – дэкаратыўныя люстэркі, сурвэткі, настольныя, прывабныя падстаўкі пад кухонныя нажы і іншыя вырабы.

Яны выкананы ў беларускім стылі і аздоблены нацыянальнымі арнаментамі.

Па словах галоўнага інжынера фабрыкі Ларысы Чыжык, укараненне мадэлей у вытворчасць стрымлівае недахоп матэрыялаў і неабходнага абсталявання. Аднак нягледзячы на гэта, некаторыя вырабы ў хуткім часе з'явяцца на паліцах фірменнага магазіна «Спадчына».

Валянцін ЧУРЫЛА

### МЯСАКАМБІНАТ НА ВЫСТАВЕ

**На мінулым тыдні, 25-29 лістапада, у Мінску прайшла 4-ая Міжнародная спецыялізаваная выстава «Белпрадукт-97».**

У выставе прымалі ўдзел 136 фірмаў з Беларусі, Літвы, Малдовы, Расіі, Польшчы, Латвіі, Швейцарыі, Украіны, Венгрыі і Германіі. Наш горад на «Белпрадукце-97» прадстаўляла адзінае прадпрыемства – Слонімскі мясакамбінат.

Алег ТАЧОНЫ

### ЛЕКІ З ПОЛЬШЧЫ

**У нядзелю, 30 лістапада, у памяшканні Дома афіцэраў адбылася раздача гуманітарнай дапамогі (лекаў) з Польшчы.**

Арганізатарамі гэтай акцыі былі сябры раённага аддзялення Саюза палякаў. Лекі для жыхароў Слоніма прывёз урач з горада Вроцлава пан Данат Паважыньскі. Гэта ўжо не першы высакародны ўчынак польскага медыка.

Дзяцінства пана Паважыньскага прайшло на цяперашняй вуліцы імя Сінічкіна. Па волі лёсу, сям'я Паважыньскіх у 1940 годзе была рэпрэсіравана і вывезена ў Сібір толькі за тое, што бацька Даната Якаб Паважыньскі служыў у польскім войску капельмайстрам духавога аркестра. Раздача медыкаментаў з Францыі і Германіі праходзіла пры ўдзеле ўрачоў.

Валянцін ЧУРЫЛА

### «ЭНКА» ПЕРАЙШЛА НА САМАКІРАВАННЕ

**Сёння, 5 снежня, на «Энцы» мае быць адбыцца першае пасяджэнне камітэту грамадскага самакіравання.**

Гэты камітэт створаны ў Слоніме ўпершыню на ўстаноўчым сходзе, які прайшоў у мінулы аўторак. Прысутныя выбралі камітэт па самакіраванню мікраёнам «Энка» з 15 чалавек. Такім чынам жыхары будуць займацца пытаннямі добраўпарадкавання двароў, захавання экалогіі, выхавання моладзі, культуры, спорту і іншымі.

А праблем у жыхароў «Энкі», як высветлілася, хапае. Напрыклад, ужо доўгі час людзі там пакутуюць ад таго, што ў кватэрах ідзе іржавая вада.

На сходзе прысутнічалі старшыня Слонімскага гарадскога Савета дэпутатаў Мікалай Лішык, сенатар Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Любоў Слюсарава, прадстаўнікі гарсавета і гарвыканкама, а таксама намеснік старшыні камісіі Мінскага гарсавета дэпутатаў па самакіраванню Мікалай Буснюк і іншыя.

Алесь ЦІШКЕВІЧ

## ГОРАД *Акцыянернаму таварыству «Альбярцін» — 70 гадоў*

# 80 відаў прадукцыі з кардону і паперы



Аднаму з буйнейшых прадпрыемстваў Слоніма, акцыянернаму таварыству «Альбярцін», 6 снежня, спаўняецца 70 гадоў. З гэтае нагоды наш карэспандэнт сустрэўся з генеральным дырэктарам прадпрыемства Леанідам Шклярам. Вось, што ён сказаў:

—Сярод іншых прадпрыемстваў горада, наша вылучаецца не толькі колькасцю работнікаў, тэхнічнай магутнасцю, але і ўзростам. У «Альбярціна» свая гісторыя і свае традыцыі. Па-рознаму называлася прадпрыемства: кардонна-папяровая фабрыка, завод, камбінат... Адно заставалося нязменным — імкненне выпускаць шырокі асартымент прадукцыі з высокай якасцю.

А пачынаецца біяграфія «Альбярціна» з 1790 года, калі пад будаўніцтва папяровай фабрыкі памешчыку Пуслоўскаму былі выдзелены зямельны ўчастак і лес.

Цяпер гэта сучаснае, магутнае прадпрыемства, дзе працуюць 1460 чалавек. Асноўны ўпор робіцца на рэканструкцыю і мадэрнізацыю вытворчасці. Толькі ў рэканструкцыю макулатурнага цэха мы ўклалі больш 500 тысяч даляраў, што дазволіла амаль удвая павялічыць вытворчасць кардону. Сёлета мы выпрабляем больш як 80 відаў прадукцыі з кардону і паперы, якая знаходзіць попыт не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, Украіне, Малдове, краінах Балтыі і іншых.

За 10 месяцаў бягучага года мы атрымалі 26,2 мільярда прыбытку, які застаецца ў распараджэнні прадпрыемства. Кожны месяц наш акцыянер атрымлівае па 200-250 тысяч рублёў дывідэндаў. Гаворачы пра дасягненні, хочацца шмат цёплых слоў сказаць у адрас нашых працаўнікоў. У першую чаргу трэба адзначыць нашых ветэранаў, якія многа гадоў аддалі прадпрыемству і зараз знаходзяцца на заслужаным адпачынку. Гэта былы галоўны інжынер Самуіл Фарбер, былы старшы машыніст папяровай машыны Іван Скарупіч, былы начальнік ТЭЦ Пётр Карповіч і іншыя.

Доўгі час працуюць на прадпрыемстве і служаць прыкладам для ўсіх слесар Рышард Бусловіч, размольшчыкі Уладзімір Лабоніч і Надзея Мышко, фарбаскладальніца Валянціна Сотнікава, пячнік Анатоль Папко і іншыя.

З лепшага боку зарэкамендавалі сябе і маладыя працаўнікі: начальнік цэха Альберт Выгоўскі, наладчык Васіль Турук, старшы дыспетчар Глафіра Кіргет, машыніст пагрузчыка Уладзімір Шухно, машыніст цэха кардону Міхаіл Тычынскі, зваршчык Іван Ціхан, закройшчыца кардону Святлана Лава і многія, многія іншыя.

Свой юбілей будзем адзначаць без пампезнасці і лішняга шуму. У клубе правядзем урачысты сход, на якім ушануем перадавікоў вытворчасці, паглядзім лепшыя нумары мастацкай самадзейнасці сваіх артыстаў.

Напярэдадні юбілею кожнаму работніку прадпрыемства выдадзена грашовая прэмія ў памеры 500 тысяч рублёў, а не працуючым пенсіянерам — па 200 тысяч рублёў. Акрамя таго, з 1 лістапада ўсім павялічылі заработную плату на 20%.

У гэты знамянальны для нас дзень шчыра і сардэчна віншую ўсіх працаўнікоў калектыву з юбілеем!

Запісаў Валянцін ЧУРЫЛА

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.

Заснавальнік і рэдактар Віктар Валадашчук. Юрыдычны адрас : 231800, г. Слонім, вул.Брэсцкая, 109–1–12.

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39. E-mail: rues@slonim.belpak.grodno.by

Падпісана да друку 4 снежня 1997 г. Час падпісання 8:00. Падпісны індэкс 64042.

Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Наклад 5.450 экз. Заказ № 2904 © «Газета Слонімская». Спасылка на «ГС» абавязковая.

# Кто в почете, тот и на работе

Известно, что большинство пенсионеров сейчас живет ниже прожиточного минимума. Даже те старики, которые проводят большую часть своего времени на дачах и приусадебных участках, не всегда могут разнообразить свой рацион питания. А денег на приобретение обуви, одежды, не говоря о покупках холодильника, телевизора или стиральной машины, просто нет.

Потому некоторые малоимущие старики в меру сил и здоровья, продолжают работать, чтобы хоть чуть-чуть пополнить свой нищенский пенсионный бюджет. Именно треть сельских пенсионеров по этой причине продолжают трудиться на фермах, полях. В городе пенсионеры работают санитарками, уборщицами, дворниками и на прочих непрестижных и низкооплачиваемых должностях.

Однако, есть и еще одна категория пенсионеров, которую можно отнести к числу местной элиты. Хоть она и немногочисленная, но обходится государству дороговато. Почему? Потому что к этой привилегированной когорте старичков относятся, как правило, ветераны войны и труда, инвалиды, которые несмотря на свой довольно преклонный возраст, продолжают занимать теплые и денежные руководящие посты. К этой же группе пенсионеров относятся заведующие складов и баз, завмаги, бухгалтера. Они, выйдя на пенсию с высокой должности, тут же всякими правдами и неправдами, не без помощи друзей и покровителей, вновь оказываются в руководящем кабинете на денежной должности.

Днями в районном отделе социальной защиты встретил бывшего директора совхоза агрофирмы «Щара». Около пяти лет назад Александр Васильевич Добриян по возрасту вышел на пенсию. Предполагаю, что пенсия у него приличная. Деньги других считать не собираюсь – неблагодарное это занятие! Да и каждый ветеран имеет право на труд, в том числе и А.Добриян. Потому он, разумеется не без помощи друзей ныне использует это право в качестве инспектора социальной защиты на селе?

**Сегодня на семьдесят с лишним тысяч человек населения, которые проживают в городе и районе, насчитывается более двадцати тысяч пенсионеров и инвалидов.**

**На ноябрь текущего года в селах проживало 10200 людей пенсионного возраста, из них 30-35% продолжают трудиться. А в Слониме живет 9852 пенсионера, их которых работают 1584.**

**В тоже время в региональном Центре занятости населения состоит на учете 1063 безработных. Из них 462 человека получают пособие по безработице.**

–Пока есть силы и здоровье – пусть поработает,- пояснила одна из работниц соцотдела.

Однако давайте чисто по-человечески подойдем к тому длинному списку безработных, что находится в центре занятости населения. Неужели из тысячи безработных нельзя было кому-то предложить должность инспектора соцотдела? Видимо и там работают по принципу: свояк свояка видит издалека?

В городе и на селе хорошо знают конкретных привилегированных пенсионеров. Говорят про них вполголоса и возмущаются. А что могут простые смертные изменить?

Вот, например, опытный профсоюзный деятель Александр Кириллович Светлов уже разменял восьмой десяток. В мае этого года отметил 70-летний юбилей со дня своего рождения. Казалось бы этот профсоюзный работник, который на протяжении нескольких десятилетий отстаивал социальную справедливость, как никто другой должен был после выхода на пенсию уступить кресло безработному. Но не тут-то было. Александр Кириллович по-прежнему возглавляет комитет профсоюза работников госучреждений!

Не только в городе, но и в республике хорошо знают и добродушного Михаила Абрамовича Белкина, заместителя директора Слонимского мясокомбината. Около десяти лет назад его оформили на заслуженную пенсию. В следующем году ему исполнится круглая дата – 70 лет. У Михаила Абрамовича, как у каждого элитного ветерана труда, наверняка, пенсия намного выше, скажем, чем у механизатора или инженера. А коль так, думается, можно смело идти на заслуженный отдых.

Несколько слов, видимо, стоит сказать о бывшем директоре мясокомбината 65-летнем Александре Алексеевиче Данилине. Многие годы он возглавлял коллектив предприятия. Сейчас этот крупный специалист перерабатывающей промышленности работает на мясокомбинате инженером. В то же время в Центре занятости в списках безработных значится более восьмидесяти человек' с высшим инженерным образованием.

За многие годы глубокие корни пустил в мясокомбинатовском кабинете еще один специалист. Это начальник планово-производственного отдела предприятия Марьян Антонович Яворовский. 6 марта 1998 года этому незаменимому специалисту-пенсионеру исполнится шестьдесят восемь лет. Его одногодки из многих отраслей народного хозяйства уже покинули свои рабочие места и заслуженно отдыхают. Может быть и Марьяну Антоновичу пора последовать их примеру?

Шестой год на пенсии по возрасту бывший главврач больницы Юльян Юльянович Дембский. Этот уважаемый преклонного возраста пенсионер оказалось продолжает трудиться на двух должностях в разных медицинских учреждениях: в райбольнице на полную ставку диетврача и на станции переливания крови на полставки исполняет обязанности заведующего отделением леофильной сушки. Его не страшат ни годы, ни рабочие перегрузки, ни расстояние, которое разделяет два медицинских учреждения. Может быть силы трудолюбивому пенсионеру придают родственные связи, установившиеся в свое время между бывшим главврачом райбольницы и нынешним главой областной станции переливания крови?

Председателю общества рыболовов и охотников Григорию Ульяновичу Позднякову 74 года. Подчиненных у него нет. Сидит в теплом, уютном кабинете. Изредка выезжает на лоно природы. Объедет лесные и охотничьи угодья, побывает на озерах, проедет вдоль рек и речушек... Неужели из тысячи безработных города не найдется одного, который смог бы занять должность товарища Позднякова?

Я преклоняюсь перед профессионализмом и богатым жизненным опытом всех этих ветеранов. Но ведь и молодые хотят и ждут работы.

**Иван ЧУГУЕВ,**
**пенсионер Министерства обороны**

**ПОШТА** *Здравствуй, редакция!*

# Зубная боль

Обратиться в редакцию вашей газеты меня вынудил один неприятный случай, который произошел со мной 28 ноября. Было это все в стоматологической поликлинике. Те, кому приходилось обращаться за помощью к стоматологам знают, что попасть на прием к врачу довольно сложно. В шесть часов нужно занять очередь и если повезет, то талончик можно получить на вторую смену. Но это – на лечение. Удалить зуб проще.

Вечером, 27 ноября, я обратилась к хирургу Михаилу Шимченку, чтобы он удалил мне больной зуб. И надо отдать ему должное – сделал он это неплохо. Однако, дома я обнаружила, что врач мне удалил не тот зуб. За ночь мне стало еще хуже, опух глаз, боль стала нестерпимой. Утром я опять поехала к этому врачу. Когда я сказала Шимченку о его ошибке, он мне ответил: «Ну и что ты теперь от меня хочешь?». «Как – что? Вырвите теперь больной зуб». А он: «Не буду. Не нравится – иди в прокуратуру». Я спрашиваю: «Так вы что, меня не примете?». Говорит: «Нет, не приму. Иди отсюда». И опять посоветовал обратиться к прокурору (не понятно – при чем тут прокурор?). Но поскольку у прокуратуры много дел и поважнее моего, я решила обратиться в газету. Больше всего меня возмутило то, что врач отказался исправить свою ошибку и сделал во всем виноватой меня.

Попутно хочу сказать несколько слов о втором хирурге – Маркелове Анатолии Анатольевиче. Честно говоря после того, что случилось, я уже боялась обращаться в эту поликлинику. И была приятно удивлена тем, как принял меня этот доктор. Он сделал все, чтобы помочь мне. Хочу еще раз поблагодарить доктора Маркелова за помощь.

**Наталья ПИСУК**

# На Украине хорошо, а в Беларуси лучше

Здравствуйте, уважаемая редакция!

Используя предоставляемую вашей газетой возможность, хотим поделиться с читателями своими мыслями, впечатлениями о жизни Слонима и района после 15 лет разлуки с городом. Покинули мы его в далеком 1982 году. Некогда небольшой, чистый и спокойный городок мы увидели с новыми микрорайонами, с интенсивным движением и к нашему удовольствию, в большинстве своем, такой же чистый и аккуратный и с прежними добродушными жителями.

Мы жили на Украине, в похожем районном центре. Поэтому, думаю, уместны следующие сравнения. Большинство предприятий в центре города Золочев, Львовской области стоят. Перед нашим отъездом работали с частыми остановками только сахарный и спиртовой заводы. Как следствие, работали три детских садика из семи (посещение садика одним ребенком стоит 300-350 тысяч бел. руб. в месяц). На предприятиях на 2-3 месяца задерживаются пенсии. В некоторых колхозах зарплату людям не платят по два года, за исключением небольшой натуроплаты сахаром и зерном. Многие жители вынуждены искать заработки в России, Польше, Греции и других странах. Конечно, есть такие люди и в Беларуси, но количество их не сопоставимо. Из-за безработицы на Украине с большим размахом бесчинствует преступность.

Однако, хочется отметить лучшую работу на Украине общественного транспорта. Автобусы ходят ежедневно, не такие переполненные как в Слониме, и ходят даже в отдаленные деревни. Видимо, некоторые руководители у нас, в погоне за прибылью, забывают об интересах простых людей. Вместе с тем хотим также отметить высокую культуру обслуживания, с которой наша семья столкнулась в Слониме при посещении поликлиники, женской консультации, детского садика №16, магазинов и учреждений. За редким исключением, люди здесь приветливые и гостеприимные.

Еще хотелось бы сказать, что при приблизительно равной заработной плате в долларовом эквиваленте, цены на основные продукты питания, на одежду, коммунальные услуги в Беларуси значительно ниже.

По роду работы нам приходилось бывать в Средней Азии, России, Армении, Азербайджане. И теперь мы с уверенностью можем сказать, что в Беларуси еще неплохо живется.

**С уважением,**
**семья ВИЛЬКОВСКИХ.**

# Я люблю свой город

Могу сказать абсолютно искренне: Слоним – мой родной город. Здесь я родился, провел детство. Нет в мире другого места краше Слонима. Иногда мне кажется, что я знаю здесь каждую улочку, переулок, деревце. И так радуюсь, когда в городе появляется что-то новое, и огорчаюсь, если что-то не ладится у моих земляков.

45 лет, как я не живу в родном Слониме, но и дня не проходит без воспоминания о нем, о друзьях, что остались здесь. Слоним всегда чистый, уютный, зеленый. В этом огромная заслуга городских властей и жителей города. Жил я на Севере, в Одессе, сейчас – в Белгороде. Казалось, Слоним покинул навсегда. Но однажды понял, что Слоним – моя родина. Свой город буду любить всю жизнь, всем сердцем, потому что здесь я родился, вырос.

**Игорь Михайлович СЛОВИНСКИЙ,**
**Белгород**

# Вспомним о наших спортсменах

Уважаемая «Газета Слонімская»!

Хочу предложить спортивному обозревателю Е.Лишику ввести новую рубрику о спортивном прошлом Слонимщины. Надо вспомнить о наших знаменитых земляках: Романовском В., Желобовском М., Дувкине Н., Герасимчике И., Гончаре А., Бочтареве С. и других.

В этом году футбольная общественность отмечает 60-летие М.Мустыгина и Э.Зарембо. Но мало кто уже помнит, что осенью 1973 года они с командой ветеранов минского «Динамо» приезжали в Слоним и провели матч со сборной города. Прошел в Слониме некогда первый международный матч с командой Белостока.

Были у нас в городе и другие значительные спортивные события, о которых одним будет приятно вспомнить, другим – узнать.

**Ваш читатель**
**РАДИОНИК Н.П. (АРЗ)**

**От редакции.** *В следующем году мы запланировали опубликовать серию материалов о знаменитых спортсменах Слонимщины, в том числе и о тех, кого вспоминает наш читатель Радионик Н.П.*

# Прогресс

Впервые пишу в редакцию газеты. Я приехала из крупного города севера России – Архангельска. В Слониме живу уже пятый год. По-моему нашему провинциальному городку не хватало чего-то нового, прогрессивного. Ваша газета сделала решительный шаг в решении этой проблемы, после того, как стала выходить.

**Наталья ДАВЫДИК**

# Літаратурны ВЕТРАЗЬ

## *Владимир КОЧЕРГА*



◆◆◆

Что ж, посидим, — цветам
не запыляться.
Мы поседеем, бог забудет нас.
Мы сможем вместе
навсегда остаться.
Жить в стороне от
любопытных глаз.
Из этой жизни мы
возьмем с собою
Тепло земное, шелест
летних трав.
Оставим дни, наполненные
болью.
Уйдем в ничто без
почестей и слав.
Нам не дождаться
ласкового слова.
О нас забудут, это участь тех,
Кто людям открывает
душу снова,
В ответ получим только смех.
Ну а пока, мы посидим
все вместе
За ровным полем одного стола.
Поговорим о доблести и чести,
Роняя в ночь красивые слова.

◆◆◆

По огням далеких городов
Предскажу тебе
твою судьбу.
Утопая в таяньи снегов,
Я тебя на помощь призову.
Забираясь
на вершины гор,
Твое имя ветру прокричу.
Обнимая взглядом
кругозор,
Ничего от жизни не хочу,
Кроме твоих глаз
и твоих рук,
Закрывающих
вчерашний день.
Если свет
оставит землю вдруг,
Если упадет
на землю тень,
Я и в темноте тебя найду.
Не ловя чужие голоса,
Я увижу яркую звезду,
Опуская веки на глаза.

◆◆◆

Куда идти, куда бежать,
куда лететь
Иль песни петь?
Или забыть, иль я забыт?
Или забыть тебя навек —
Нет, не такой я человек.
Или страдать,
или грустить—
Веселым в жизни
мне не быть.
Иль бросить пить,
рояль купить.
Стели кровать, готовь обед.
Не выйдет из меня поэт.
Я годы трачу просто так.
И не простак, и не дурак,
Я всего-навсего чудак.
Мой дом — барак.
Обед мой — хлеб.
Красивой песни
не сложить.
Стихов красивых
не прочесть.
Я ерунде готов служить,
Но все же
в этом что-то есть.

## *Евгения ТРУХАН*



### Облака

Вы спасенье мое, облака,
Унесите меня, я молю вас.
Путь-дорога
моя нелегка,
Унесите меня, облака.
Подхватите меня, облака,
Уберите из жизни суровой,
Чтоб я видела
мир свысока.
Подхватите меня, облака.
Увлеките меня, облака,
В свою вечную
синюю даль,
Утолите земную печаль,
Увлеките меня, облака.

### Закат

Закат...
Уж от него ты не уйдешь.
Закат...
Всю правду
выскажет в лицо.
Закат...
Погубит всю
твою он ложь.
Закат...
Тебе оденет
обручальное кольцо.

### Никто не поймет

Сначала напишет,
Потом зачеркнет.
Зачем?
Никто не поймет.
Сначала расскажет,
Потом все сожжет.
Зачем?
Никто не поймет.
Сначала родится,
А после — умрет.
Зачем?
Никто не поймет...

## *Таццяна БАРАДЗІНА*



### Красавік

Лес вясёлкаю звініць,
Матылькі лятаюць,
Дружна ў лесе жыхары
Красавік вітаюць.
На палянцы шалясціць
Кволенькі дубочак.
І спявае, і шуміць
Шпаркі ручаёчак.
Усміхаюцца пралескі,
Раздаюць усім усмешкі...
Вось такі наш красавік,
Сумаваць ён не прывык.

## *Марыя ЗЕНАВА*



◆◆◆

Восеньскі дождж
ідзе па зямлі,
Хаты і дрэвы
мокнуць адны.
Восеньскі сум
плыве па вадзе.
Дзе ж яно, лета,
дзе ж яно, дзе?
Можа схавалася
ў цемнаце?
Можа прыціхла
ў нечай руцэ?
Лета гарачае,
добрае лета —
Шчасця пара
і здароўя прыкмета.
Восеньскі дождж
сыпле тугу.
То я з сябрамі
разам бягу.
То я стаю адзінокая зноў...
Хто вінаваты?
Мо крык журавоў?

# Спыніся,

Клуб творчай моладзі «Безмеж», які створаны ў Цэнтры дзіцячай і юнацкай творчасці, аб'яднаў цікавых, творчых маладых людзей. Яны пішуць вершы, замалёўкі, казкі. Гэта яшчэ не сапраўдныя паэты і пісьменнікі, ды многія з іх і не імкнуцца стаць імі. Але гэта таленавітыя людзі, цікавыя суразмоўцы са шчырай душой. Калі яны збіраюцца разам, то знаходзяць узаемапаразуменне, дапамагаюць адзін аднаму разабрацца ў розных жыццёвых цяжкасцях. І

## *Ірына КОМАР*



### Завіруха

Ты сядзіш у цёплай хаце.
На дварэ крычыць завея:
—Наце снегу, гурбаў наце!
І ўсё вее, вее, вее.
Усе сняжынкі
ў моцным віхры,
Бы ў «Лявонісе»,
закружаць...
І Дружок на двор
не выйшаў —
Ён баіцца, жэўжык, сцюжы.
Наш ліхтар у адзіноце
Усміхаецца, як след.
Хай азорыць снежны танец
Задуменны жоўты свет.

## *Наталья БАРКОВСКАЯ*

### Надоело

Не хочу быть плененной
Пустотою и мраком,
Не хочу быть плененной
одиночеством, страхом.

Надоело слоняться
По пустынным аллеям.
Надоело бояться,
Что никто не согреет.

Надоело так жить,
Чтоб в друзьях сомневаться,
Надоело всем льстить —
Лучше снова расстаться.



# Лясная

Жыў ды быў у адным лесе стары, добры Дзядуля Баравік. Гэта быў вельмі разумны грыб. Ён меў доўгую белую бараду, маленькія вочкі з хітрынкай і вялікі карычневы капялюш. Гэты грыб жыў у невялікім доміку з адным пакойчыкам і ніколі не сумаваў. Звяры, птушкі, нават матылькі і стракозы кожны дзень наведвалі старога. Бывае, пакрыўдзіць воўк зайчыка, дык пакрыўджаны заўсёды да Баравіка бяжыць паплакаць. А той супакоіць касавокага, і воўка пасароміць. Дзядуля Баравік і ў бядзе дапаможа, і ў працы падтрымае, і параду карысную дасць, і правільна спрэчку рассудзіць.

Аднойчы ў гарачы летні дзень Баравік сядзеў на лавачцы ля свайго доміка і слухаў спевы птушак, любаваўся рознакаляровым танцам матылькоў, дружным карагодам вясёлых вавёрак.

Раптам да яго прыбегла задыханае маленькае лісяня:

—Ой, Дзядуля, пойдзем са мной, там такое робіцца!

—Ну што там ў вас зноў здарылася? — спытаў Баравік.

—Там, на Кветкавай палянцы, маленькі хлопчык — хуліган! Кветкі патаптаў, матылькоў ловіць і крылцы абрывае.

Дзядуля Баравік накіраваўся на Кветкавую палянку і ўбачыў, як хлопчык гадоў шасці рве кветкі з коранем і з рагаткі страляе па птушках.

—Хлопчык, што ж ты робіш?

Малы здзіўлена паглядзеў на Баравіка:

—Мне мама ўсё дазваляе, я што хачу, тое і раблю.

—Тады зразумела. Ты проста распешчанае дзіця, а гэта кепска.

# Літаратурны ВЕТРАЗЬ

## Імгненне!

проста пішуць вершы і казкі. Няма мяжы для творчасці, для таленту. Таму і назву для клуба выбралі «Безмеж».

На занятакі клуба запрашаем вучняў, якія адчуваюць цягу да творчасці, спрабуюць самі пісаць. «Безмеж» збіраецца кожную сераду ў 17.00 у ЦДЮТ.

Мы спадзяемся на разуменне і добразычлівасць чытачоў.

**Ірына ЧЫГРЫНА,**
**кіраўнік клуба «Безмеж»**

## *Ольга* ВИЛЬКОВСКАЯ



### Кто из нас нищий?

Она пришла
нежданно так
И хлеба попросила.
Ведь, кажется,
какой пустяк,
А взгляд такой унылый.
Нам трудно
хлеб на стол достать
И пожалеть убогих.
А чтоб быстрей
от них отстать,
Уколим
взглядом строгим.
...Так и она
ушла ни с чем,
Пошла просить —
вдруг не прогонят.
Она не понята никем,
Ее судьба
в чужих ладонях.

◆◆◆

Дрожат осенние цветы.
Они промокли и озябли.
Им бы побольше доброты
И сострадания
хоть каплю.

◆◆◆

Я не похожа на других
Своей манерой поведенья:
То радость вспыхнет
вдруг на миг,
То слезы огорченья.
Но жизнь идет
своим манером —
И я ползу по ней с трудом.
Хочу найти
надежду, веру —
Она встречает
вдруг штыком.
Я усложняю жизнь себе
Сама условными штыками.
Мне надоело
жить в борьбе...
Пойти и рассказать
все маме?

## Казка

Дзядуля задумаўся на хвілінку:

–Давай, хлопчык, пагуляем з табой па лесе.

Жывёлы і птушкі здзіўлена глядзелі на іх.

–Бачыш, хлопчык, вунь той дом? Яго пабудаваў мядзведзь для сваёй сям'і. Нават маленькае медзведзяня дапамагала ў пабудове. А ты часта дапамагаеш сваім бацькам?

–Я, я... Не дапамагаю. Мне мама не дазваляе, бо я яшчэ маленькі.

–А ў нашым лесе нават маленькія зайчаняты, лісяняты дапамагаюць сваім бацькам.

Дзядуля Баравік шмат чаго паказваў хлопчыку, расказаў пра лес, пра звяроў, матылькоў. Хлопчык усхвалявана слухаў старога.

–Дзякуй табе, Дзядуля Баравік. Цяпер я ўсё зразумеў. Я ніколі не буду таптаць кветкі, забіваць матылькоў, страляць па птушках з рагаткі. Я буду клапаціцца пра сваіх бацькоў і дапамагаць ім. А ўсё, што ты мне сказаў, я запомню на ўсё жыццё. І хлопчык пабег па сцяжынцы дадому.

Лясныя жыхары акружылі мудрага дзядулю і запыталі:

–Як ты змог хлопчыка перавыхаваць?

Дзядуля Баравік, хітра пазіраючы, растлумачыў:

–Гэта зусім не такі ўжо кепскі хлопчык і ён ніколі не зробіць больш шкоды лесу. Я сказаў яму, што трэба шанаваць і любіць прыроду, берагчы ўсё яе багацце для будучага пакалення. І вы помніце аб гэтым.

**Марыя ЗЕНАВА**

## *Ольга* КАЛИНЕВИЧ



◆◆◆

Лицо — отраженье души
Иль душа —
отраженье в лице.
Ты спишь,
вставать не спеши,
Иль сон — жизнь на земле.
Красота — это цветок
Иль цветок очень красив.
Надежда — мечты огонек
Иль надежда
мечтою горит.
Тишина живет в тишине,
Или там она,
где перрон.
Может, я ошибаюсь где,
Может, это жизни закон.

◆◆◆

Когда на краю я пропасти
И мне угрожает беда,
Мой ангел,
не зная робости,
Стремится
помочь всегда.
Он свою мягкую руку
Протянет мне, говоря,
Чтобы я забыла разлуку
Оставалась собой всегда.
Когда на краю я
пропасти,
Сорваться могу когда,
То демон мой искуситель
Меня соблазняет всегда.
Его скользящие глазки
Блестят, на меня глядят,
Уста предлагают ласки,
Про пошлости говорят.
И снова я на краю,
Выбор встает
предо мной.
Уверена, устою,
Смогу остаться собой.

◆◆◆

Ты летишь,
когда лучше упасть,
Сброситься с скал
и разбиться.
Ты кричишь,
когда лучше молчать,
В тишине о себе
помолиться.

◆◆◆

Я, как бездомная
собака,
Куда-то ноги волочу.
От этой жизни
нашей шумной
Наверно, многого хочу.



## *Екатерина* ЛЕНКОВА

### Молитва



На краю обрыва,
на коленях,
В черном одеянии,
с крестом,
Девушка монахиня
молилась
О судьбе, о счастье,
обо всем...
Серые глаза ее с тоскою
Лишь глядели вдаль,
куда-то вдаль,
Ну а душу, битую судьбою,
Покрывала
памяти вуаль.
Сильный ветер
гнул деревья книзу,
Море пенилось,
кипело и гуло,
Гром гремел,
желая сбросить ризу.
Капал дождь,
как чистое стекло.
Боже мой!
Одни ее страданья
Не равны и океану слез!
Быть счастливой —
это наказанье,
Быть несчастной
рок ей преподнес.

◆◆◆

Мой полет был коротким:
Крыльев взмах — и упала,
Крыльев взмах —
и разбилась
О прибрежные скалы.
Слезы счастья и горя,
Слезы смутных страданий.
Я, как парусник в море,
Очарованный странник.
Красота в изобилье
И лазурные дали,
И мечты, но без крыльев,
На волнах уплывали.

◆◆◆

Бордовый лист клена стучится в окно,
Печалью окутан он очень давно.
В тумане исчезли дома и поля.
И вот на дороге уж снег, не земля.
Лишь изредка слышно, как дятел стучит
Да клен все печальней ветвями шумит.
Шум этот, как будто прощальный романс,
И где-то вдали тарахтит дилижанс.

## *Екатерина* ДЕДОВИЧ



◆◆◆

Где-то брезжит
вдали рассвет —
Мне домой
возвращаться пора.
Шаг за шагом,
но нет и нет,
Вокруг нас временная дыра.
Нет ни месяцев, ни часов,
И столетняя кривизна
Где-то в облаке
призрачных снов.
Нас манит и манит она.
А со мной тишина, тишина,
Пустота и множество лет,
Сколько боли
излито до дна —
Все пустое,
ведь скоро рассвет.

## *Инга* ЛОМАКА

### Детство



Время идет,
бегут года,
Взрослеем мы,
меняем взгляды,
Но детство
не забыть нам никогда,
Да и забывать
совсем — не надо.
Время повернуть —
не в нашей власти,
Пусть же будет так всегда:
Если детство,
то веселье, счастье.
—Что ж,
не постареем никогда?

